# УСЛАЎЛЯЦЬ ВЕЛІЧ І ПРЫГАЖОСЦЬ НАШЫХ ДЗЁН!

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

адзін балет, якія, аднак, маюць прынцыповае значэнне ў развіцці беларускага музычна-сцэнічнага мастацтва.

Опера «Калючая ружа» Ю. Семянякі, напісаная па лібрэта А. Бачылы, была пастаўлена на сцэне нашага тэатра ў канцы 1960 года. Опера далёка не бездакорная, асабліва па лібрэта, дзе не ўсе вобразы набываюць лагічнае развіццё (напрыклад, Андрэя), дзе асобныя сітуацыі надуманыя (сцэна атручання) і г. д. На жаль, і кампазітар не зусім справіўся з задачамі музычнай драматургіі. Тут адсутнічае сапраўднае сімфанічнае развіццё, не хапае аркестравай яркасці. Аднак опера Ю. Семянякі палюбілася грамадскасці дзякуючы цэламу раду прывабных рыс: у ёй усё спяваецца і лёгка запамінаецца, ёсць яркія арыёзныя месцы, аўтар добра валодае меладычным рэчытатывам, ствярае рад удалых музычных характарыстык і вобразных камедыйных сцэн. У оперы ўвесь час адчуваецца атмасфера жыццярадаснасці, маладой весялосці. Поспеху «Калючай ружы» спрыяла старанная і любоўная пастаноўка, удумлівая работа ўсяго творчага калектыву нашага тэатра, які ў сваім спектаклі значна пераадолеў недахопы твора. Опера Ю. Семянякі прынята зараз да пастаноўкі Фрунзенскім оперным тэатрам, ёю зацікавіліся і іншыя тэатры краіны, у прыватнасці Горкаўскі.

Балет «Мара» Я. Глебава (лібрэта Я. Рамановіча) таксама мае і свае вартасці і недахопы. Тэма балета вельмі актуальная, яна расказвае аб трагедыі чалавека, з малых год адарванага ад родных мясцін і атрымаўшага магчымасць ажыццявіць свае запаветныя мары толькі пасля вяртання на радзіму.

Праўда, само балетнае лібрэта рыхлае, яно не мае адзінай лініі развіцця вобразаў і падзей, твор як бы распадаецца на асобныя, недастаткова звязаныя паміж сабою фрагменты (пралог адарваны ад далейшага развіцця дзеі, другі акт вельмі статычны, пераважаюць сцэны, якія малююць мінулае Марыі, а не яе новае жыццё).

Музыка Я. Глебава прываблівае яркай вобразнасцю і імкненнем творча пераасэнсаваць беларускі фальклор. Кампазітар добра адчувае магчымасці аркестра. У партытуры шмат маляўнічасці, але часам кампазітару не хапае пачуцця меры, іншы раз ён злоўжывае спецыфічнай гучнасцю саксафонаў і засурдзіненых труб, захапляецца вострымі гармоніямі. Разам з тым, трэба адзначыць высокі ўзровень прафесіяналізму музыкі балета, наяўнасць у ёй раду яркіх драматычных кульмінацый, вынаходлівасць музычных характарыстык. Вельмі пераканаўчы гратэскавы паказ мадэрнісцкага мастацтва з яркім супрацьпастаўленнем яму характарных народных танцаў, якія прывабліваюць сваёй эмацыянальнасцю і натхнёнасцю.

Пастаноўка балета «Мара» на сцэне опернага тэатра таксама сведчыць аб вялікай рабоце, праведзенай яго калектывам пастаноўшчыкаў і выканаўцаў. Вартасці музыкі Я. Глебава даюць магчымасць тэатру працягваць работу над удасканаленнем спектакля, зрабіць яго больш стройным, лепш звязаць паасобныя эпізоды.

— І ўсё ж, — працягвае Я. Цікоцкі, — трэба адзначыць, што стварэнне за тры гады ўсяго двух твораў музычнай драматургіі — гэта вельмі мала. Прычым у апошні час у операа-балетным жанры амаль зусім не працуюць нашы вопытныя кампазітары М. Аладаў, А. Багатыроў, Д. Лукас. Жыццё настойліва патрабуе ствараць не толькі манументальныя шматактовыя оперныя і балетныя творы, але і аднаактовыя музычныя спектаклі, тэлевізійныя, кінаоперы і балеты, а таксама музычныя камедыі, музычна-драматычныя творы для народных тэатраў.

Трэба сказаць, што наш оперны тэатр на працягу раду год не па-гаспадарску ставіўся да захавання на сваёй сцэне нацыянальнага рэпертуару. Тэатр амаль не рабіў спроб паставіць усё лепшае з таго, што ўжо створана кампазітарамі. Нават пры наяўнасці дагавораў і частковай выплаты ганарару некаторым аўтарам (балет «Лясная казка» А. Туранкова, опера «Свіцязянка» Р. Пукста) тэатр да гэтага часу не прыступіў да сцэнічнага ўвасаблення напісаных па яго заказу твораў.

Мы ўдзячны, гаворыць Я. Цікоцкі, калектыву Беларускага радыё за тое, што ён па нашай просьбе падрыхтаваў і арганізаваў трансляцыю ў эфір урыўкаў з оперы П. Падкавырава «Павел Карчагін». Дарэчы, нягледзячы на дагавор паміж кампазітарам і тэатрам, пытанне аб пастаноўцы гэтай оперы на тэатральнай сцэне вось ужо на працягу некалькіх год ніяк не можа вырашыцца. Цяпер над новымі творамі па заказу нашага тэатра працуюць Г. Вагнер, Я. Глебаў, Ю. Семяняка. Саюз кампазітараў акажа і аўтарам, і пастановачным калектывам неабходную дапамогу ў рэалізацыі іх творчых задум. Аднак гэта не здымае абавязку тэатра вярнуць на яго сцэну ўсё лепшае, што было створана раней.

— Саюз кампазітараў лічыць, — гаворыць дакладчык, — што памылкова закрыты ў свой час Тэатр музкамедыі павінен быць адноўлены. Пры наяўнасці высокаідэйнага і мастацкага рэпертуару такі тэатр у Беларусі будзе садзейнічаць эстэтычнаму выхаванню шырокіх мас працоўных сродкамі аднаго з самых любімых і дэмакратычных жанраў музыкі.

Вельмі добра, што наша кампазітарская моладзь занялася стварэннем твораў для музычнага тэатра. Але я хачу, працягвае Я. Цікоцкі, звярнуцца з заклікам да кампазітараў старэйшага і сярэдняга ўзросту, якія маюць вопыт у опернай творчасці: давайце не будзем цурацца оперна-балетнага жанра і па-сапраўднаму возьмемся за цяжкую, але пачэсную работу па стварэнню новых беларускіх опер на сучасныя тэмы.

З такім жа заклікам дакладчык звяртаецца да беларускіх паэтаў і драматургаў, каб яны ўключыліся ў стварэнне оперна-балетных лібрэта.

Далей Я. Цікоцкі пераходзіць да разгляду сімфанічнага і вакальна-сімфанічнага жанраў, якім беларускія кампазітары паранейшаму ўдзяляюць найбольшую ўвагу ў сваёй творчасці. Ён адзначае, што гэтая ўвага заканамерная і станоўчая. Яшчэ Чайкоўскі ў свой час заўважыў, што сімфанізм дае неабмежаваныя магчымасці для поўнага раскрыцця духоўнага свету чалавека. А што можа быць больш пачэсным і важным для савецкага мастака, чым паказ багатага ўнутранага свету нашага сучасніка. Жаданне працаваць у галіне сімфанічных жанраў сведчыць таксама аб сталасці аўтараў, аб іх тэндэнцыі да музычна-філасофскіх абагульненняў з'яў навакольнага жыцця.

Не прадказваючы, якую ацэнку дасць грамадскасць таму ці іншаму твору беларускай музыкі, уключанаму ў праграмы з'ездаўскіх канцэртаў, гаворыць дакладчык, я хачу спыніцца на наступнай прыемнай з'яве музычнага жыцця рэспублікі. Доўгі час у Беларусі не было прытоку свежых кампазітарскіх сіл. І вось за апошнія два гады выраслі маладыя аўтары, якія прыцягнулі да сябе ўвагу грамадскасці яркай таленавітасцю, творчай смеласцю і значным прафесіянальным узроўнем кампазітарскай падрыхтоўкі.

Я. Цікоцкі адзначае творчыя поспехі Д. Смольскага, чые здольнасці гарманічна развіваюцца ва ўсіх жанрах. Творчасць гэтага маладога кампазітара на з'ездзе будзе прадстаўлена сімфоніяй, канцэртам для цымбал у суправаджэнні аркестра і вакальнай «Паэмай аб каханні». Нягледзячы на тое, што творы гэтыя розныя па сродках выразнасці, па вобразах, па маштабнасці, усе яны аб'яднаны не толькі глыбінёй думкі і натхнёнасцю маладога аўтара, але і арыгінальным творчым почыркам, эмацыянальнай насычанасцю.

Аб першай сімфоніі Д. Смольскага дакладчык сказаў, што, пры наяўнасці ў ёй яркай вобразнай музыкі, логікі развіцця тэматычнага матэрыялу, цікавых пошукаў формы і аркестравай вынаходлівасці, яна міжвольна насцярожвае слухачоў атмасферай змрочнасці. Нават успрымаючы гэты твор як трагедыйны — а і ў нашай рэчаіснасці можа быць трагедыйнасць у пэўных жыццёвых калізіях, — адсутнасць дастаткова моцнага светлага кантрасту пазбаўляе сімфонію неабходнай аптымістычнасці ва ўспрыняцці, пазбаўляе жыццесцвярджальнай сілы.

Парадавалі сваімі першымі сімфоніямі Р. Бутвілоўскі і Ул. Чараднічэнка. Калі ў сімфоніі Р. Бутвілоўскага прываблівае паслядоўная дапытлівасць, з якой аўтар сочыць за рухам неспакойнай душы героя твора, імкненне не ісці па пратаптанай сцежцы, не аблягчаць сабе творчую задачу, то сімфонія Ул. Чараднічэнкі не менш цікавая іншымі рысамі. Яе герою ўласцівы вялікія парывы пачуццяў. У музыцы Ул. Чараднічэнкі — шмат яркасці, выразнасці, тэмы лёгка запамінаюцца і ў той жа час няма прымітыўнасці ў гарманічнай і аркестравай мове. Аднак трэба сказаць, працягвае дакладчык, што абедзве сімфоніі не пазбаўлены недахопаў. У Р. Бутвілоўскага стылістычна выпадае другая частка з усяго цыкла, няма гарманічнай чысціні, не знойдзены галоўныя кульмінацыі ўнутры частак. А ў Ул. Чараднічэнкі побач з вельмі ўражлівай, эмацыянальна моцнай музыкай, сустракаюцца ілюстрацыйныя эпізоды.

У рэспубліцы дзесяцігоддзямі працуе слаўная кагорта кампазітараў старэйшага і сярэдняга пакаленняў, многія з якіх — заснавальнікі нацыянальнай прафесіянальнай музычнай культуры ва ўсіх жанрах. Іх творчасць і сёння як па аб'ёму, так і па ідэйна-мастацкай каштоўнасці ў асноўным вызначае сучасны стан беларускай музыкі.

З беларускіх кампазітараў старэйшага і сярэдняга пакаленняў актыўна працуюць у жанры сімфанічнай музыкі М. Аладаў, Л. Абеліёвіч, Г. Вагнер, Я. Дзягцярык.

Шостая сімфонія М. Аладава вызначаецца не толькі майстэрствам, яркасцю тэматычнага матэрыялу, але і глыбінёй задумы, імкненнем паказаць гераізм чалавека ў барацьбе, якая канчаецца трагічна. Але трагедыйнасць не выклікае безвыходнасці, сімфонія гучыць аптымістычна.

Значную цікавасць мае вакальна-сімфанічная паэма «Вечна жывыя» Г. Вагнера. Яна перш за ўсё значная па сваёй ідэі: людзі, якія аддалі жыццё за свабоду і незалежнасць Радзімы, неўміручыя. Паэма хвалюе прыгажосцю тэм, глыбінёй і арыгінальнасцю раскрыцця задумы. У творы Г. Вагнера добра выкарыстаны жаночы хор, які спявае без тэксту і ўвасабляе галасы ахвяр вайны. Кампазітар правільна паставіўся да крытыкі сваёй паэмы і палепшыў гучанне ў ёй фугата і коды.

Сімфонія Л. Абеліёвіча прысвечана моладзі. Яна самабытная. У творы, якому ўласціва добрае аркестравае майстэрства, паказана дружба моладзі розных краін з савецкімі юнакамі і дзяўчатамі.

Я. Дзягцярык у сваёй сімфанічнай творчасці звяртаецца да праграмнай выяўленчай музыкі. Яго сімфанічная паэма «Палессе», сімфанічныя карціны «Мора» і «Світанне», «Карнавальная сюіта» (цыкл замалёвак пра моладзь) вызначаюцца цікавымі пошукамі аркестравай маляўнічасці. Разам з тым Я. Дзягцярыку трэба дабівацца большай зладжанасці, большай распеўнасці музыкі.

Гаворачы аб нашай сённяшняй сімфанічнай музыцы, зазначае Я. Цікоцкі, неабходна сказаць, што ў пошуках даступнасці такой музыкі для самай шырокай аўдыторыі слухачоў кампазітары М. Аладаў, А. Багатыроў, Г. Вагнер, Я. Глебаў і іншыя напісалі жанравыя (святочныя, урачыстыя, дзіцячыя і г. д.) уверцюры і сюіты. Навінкай у жанры інструментальнай музыкі з'явіўся ў нас віяланчэльны канцэрт П. Падкавырава.

У беларускай сімфанічнай музыцы, як відаць са шматлікіх прыкладаў, наметіліся значныя зрухі. Мы пасталелі ў гэтым жанры, прыкметна імкненне да пошукаў. Аднак мы не навучыліся яшчэ добра пісаць фіналы, натуральна расстаўляць кульмінацыі ў творах, мала ў нас аркестравай вынаходлівасці. Нам трэба навучыцца пісаць музыку сонечную, знаходзячы для новага радасна-хвалюючага зместу новую дасканалую форму.

Хочацца выказаць, гаворыць далей Я. Цікоцкі, некаторыя меркаванні аб сучаснасці музычнай мовы твораў, незалежна ад назвы або аб'яўленай праграмы. Напрыклад, скрыпічны канцэрт П. Падкавырава — твор ярка сучасны **па гучанню**, па музычнай мове, хоць яснай праграмы ў ім няма. Яна ніяк не афішыруецца — ні ў назве, ні ў анатацыі, — але сучаснасць ясна заяўляе аб сабе з кожнага радка скрыпічнай партыі і з кожнай старонкі партытуры новага, наватарскага твора. Або вазьміце першую сімфонію Ул. Чараднічэнкі. Яна таксама не мае спецыяльна аб'яўленай праграмы, але, слухаючы яе, мы адразу пазнаём, што яна адрасавана нашай моладзі, Ленінскаму камсамолу. Маладзёжная тэма гучыць у сімфоніі Чараднічэнкі не менш выразна, чым, скажам, у Першай сімфоніі Падкавырава, якая таксама была створана ў гонар камсамола.

Затым дакладчык характарызуе становішча ў галіне камернай музыкі.

— Камерная музыка, — гаворыць ён, — адзін з тых жанраў, у якім беларускія кампазітары даволі паспяхова працуюць на працягу многіх год. За мінулыя тры гады ў галіне камерна-інструментальнай музыкі напісана некалькі цікавых твораў. Сярод іх фартэпіянныя санаты А. Багатырова і Д. Камінскага, саната для альта і фартэпіяна Э. Тырманд. Цікавасць маюць таксама інструментальныя мініяцюры М. Аладава для скрыпкі, віяланчэлі, Л. Абеліёвіча, Д. Камінскага, П. Падкавырава — для скрыпкі, А. Багатырова і М. Русіна — для віяланчэлі. М. Аладавым, Я. Дзягцярыкам і П. Падкавыравым створана літаратура ад санат і ансамбляў да мініяцюр для духавых інструментаў.

І ўсё ж нельга лічыць нармальным, што ў нас зусім няма новых фартэпіянных трыо, струнных квартэтаў і іншых ансамбляў цыклічных форм. Гэта, відавочна, тлумачыцца тым, што Беларусь да гэтага часу не мае адпаведных выканаўчых калектываў ні ў філармоніі, ні на радыё. Варта падумаць аб тым, каб стварыць са студэнтаў апошніх курсаў нашай кансерваторыі пастаянныя камерныя ансамблі розных складаў, якія пасля заканчэння навучальнай установы былі б залічаны ў канцэртныя арганізацыі як штатныя адзінкі. Выкананне камернай музыкі ў рэспубліцы вельмі адстае. І не выпадкова беларускія музыканты амаль не прымаюць удзелу ні ў адным усесаюзным, не гаворачы ўжо аб міжнародным, конкурсах.

Не ўсё добра ў жанры беларускага раманса, вакальных ансамбляў. Калі раней кожны год з'яўляліся вельмі яркія цыклы рамансаў, якія па-філасофску асэнсоўвалі жыццё ва ўсёй яго разнастайнасці, дык цяпер можна назваць толькі асобныя ўдачы ў гэтым жанры. Так, цікавымі здаюцца нам па задуме і яркімі па ўвасабленню вакальныя цыклы А. Багатырова на словы А. Куляшова, Л. Абеліёвіча — на словы Ф. Цютчава, асобныя рамансы М. Аладава, С. Аксакава, Д. Смольскага — на словы беларускіх паэтаў.

Сапраўды працоўны подзвіг праявіў наш старэйшы кампазітар М. Чуркін, якому праз два месяцы споўніцца 93 гады, стварыўшы дзве мініяцюры для струннага квартэта. Гэтыя п'есы прысвечаны нашай моладзі.

Далей Я. Цікоцкі пераходзіць да характарыстыкі харавой і песеннай творчасці беларускіх кампазітараў. Ён адзначае, што ў галіне харавой музыкі з поспехам працуе І. Кузняцоў — аўтар прызнанай нашай грамадскасцю акапэльнай кантаты «Уладзімір Ільіч Ленін» на словы М. Алтухова. (Гэтая кантата запісана Усесаюзным Домам гуказапісу на доўгаграючай пласцінцы). За апошні час І. Кузняцоў стварыў таксама цыкл з 25 хораў для дзяцей на словы беларускіх паэтаў, кантату акапэла «Радуйся, наша зямля» (тэкст А. Дзеружынскага) і рад хораў.

Ёсць асобныя ўдачы ў стварэнні харавых твораў у М. Аладава, А. Багатырова, Г. Вагнера, Ю. Семянякі, Э. Тырманд. Але трэба шчыра сказаць, што наша Акадэмічная харавая капэла мае права крыўдаваць на беларускіх кампазітараў: твораў для яе мы пішам вельмі мала, да таго ж яны часам не дасягаюць узроўню выканаўчых магчымасцей выдатнага творчага калектыву. Многа вязкасці ў нашых харавых партытурах, не выкарыстоўваюцца багацці поліфаніі. Мы не дамагаемся прыгажосці тэмбравай афарбоўкі, рытмічнай і дынамічнай разнастайнасці. Многія творы пішуцца на слабыя ў мастацкіх адносінах тэксты.

Мы па-ранейшаму ўсё яшчэ не можам сказаць, што беларускія кампазітары стварылі многа добрых песень, якія б глыбока ўвайшлі ў быт народа, хоць тэматыка песень ўвогуле значна ўзбагацілася. З вялікім задавальненнем мы павінны адзначыць стварэнне раду новых добрых песень пра Ул. І. Леніна, пра партыю, воінаў Савецкай Арміі. Літаральна за некалькі месяцаў нашы кампазітары стварылі зборнік з 15 песень — «Беларускія кампазітары — граніцы».

Усё больш беларускіх кампазітараў звяртаецца да песеннага жанра. Цяпер мы можам гаварыць пра творчыя ўдачы не толькі прызнаных нашых песеннікаў — Ул. Алоўнікава і Ю. Семянякі, але і назваць імёны Л. Абеліёвіча, М. Аладава, А. Багатырова, Г. Вагнера, І. Кузняцова, Э. Тырманд, М. Шнейдэрмана, якія стварылі лірычныя, жартоўныя, эпічныя, гераічныя песні.

Ёсць неблагія песенныя творы ў Р. Бутвілоўскага, І. Ронькіна, Д. Смольскага. Мы лічым, што Я. Глебаву і Ул. Чараднічэнку таксама неабходна ўдзельнічаць у стварэнні масавых песень.

Цяпер у нас ёсць ужо не адна, а некалькі песень аб Мінску, аб Палессі, аб Полацку, аб Нарачы, аб нашых новабудоўлях — Салігорскім калійным камбінаце і Полацкім нафтабудзе. Аднак гэта нас не можа задаволіць. Беларускіх кампазітараў правільна папракаюць за тое, што няма песень, якія падхапіла б уся моладзь, няма такіх, якія гучалі б на дэманстрацыях, услаўлялі веліч нашых дзён; няма песень музычнага быту, хатняга музіцыравання; няма школьных песень для паходаў, урачыстай лінейкі, адпачынку ля вогнішча, школьнага балю. А хіба мы задаволілі эстэтычныя запатрабаванні рабочай і калгаснай шматмільённай аўдыторыі? Дзе сучасныя вясельныя песні, калыханкі, песні-думы, элегіі і г. д.?

Асноўны недахоп большасці беларускіх песень — адсутнасць у іх выразных вобразаў, яркіх, запамінальных, арыгінальных мелодый. Нам трэба змагацца з песенным трафарэтам, з шэрасцю, з бытуючымі і вандруючымі з адной песні ў другую інтанацыямі і папеўкамі. Горш за ўсё, калі такія інтанацыі бытуюць нават не ў аднаго і таго ж аўтара, а вандруюць, «перадаюцца напракат» адным аўтарам другому. Нам вельмі патрэбны песні бадзёрыя, жыццесцвярджальныя. Не трэба выпускаць у эфір, на эстраду, у быт тое мноства музычнай нуды, якой часам хочуць падмяніць грамадзянскасць нашай масавай песні.

У многіх недахопах нашай песеннай творчасці вінаваты і паэты. Ад літаратурнай першаасновы, ад тэксту залежыць поспех песні. Задача кампазітара — правільна прачытаць паэтычны тэкст, і калі ў ім закладзена глыбокая, натхнёная думка, знайсці яе.

— Некалькі слоў аб прапагандзе песеннай творчасці, — гаворыць далей Я. Цікоцкі. — У тым, што нават лепшыя песні беларускіх кампазітараў не даходзяць да сэрца шырокіх мас — немалая віна нашых кнігагандлёвых арганізацый, якія не навучыліся па-сапраўднаму папулярызаваць музычную літаратуру. Хіба гэта дапушчальна, што ў рэспубліцы, дзе сотні тысяч чалавек спяваюць у самадзейных гуртках, песні выдаюцца мізэрнымі тыражамі, усяго тысячу — тры тысячы экзэмпляраў. Прычым песні, прысвечаныя значным падзеям жыцця і знамянальным датам, з'яўляюцца ў продажы з вялікім спазненнем. Трэба арганізаваць выпуск масавымі тыражамі песень-лістовак.

Далей Я. Цікоцкі спыніўся на разглядзе іншых масавых жанраў, а таксама музыкі для тэатра і кіно. Ён гаворыць пра тое, што, калі ў першыя пасляваенныя гады нашы кампазітары стварылі для Дзяржаўнага народнага аркестра БССР яркі, самабытны рэпертуар, то потым яны занядбалі гэты масавы жанр. І толькі цяпер з'явіліся новыя творы беларускай народна-інструментальнай музыкі. Уся праграма з'ездаўскага выступлення народнага аркестра цалкам складаецца з твораў «прэм'ер» апошняга часу. Вельмі добра, што побач з такімі майстрамі гэтага жанра, як М. Аладаў і Д. Камінскі, для народнага аркестра пішуць Я. Глебаў, І. Кузняцоў, І. Ронькін, Ю. Семяняка, Д. Смольскі. Няхай творы гэтых аўтараў нераўнацэнныя па якасці, але важна, што ўсе названыя аўтары энергічна і з любоўю працуюць у галіне народна-інструментальнай музыкі. Асабліва вылучаюцца рапсодыя і канцэрціна для дуэта цымбал І. Ронькіна, канцэрціна для цымбал-сола з аркестрам Д. Смольскага, уверцюра Я. Глебава.

У жанры духавой музыкі актыўна працуюць П. Падкавыраў і М. Шнейдэрман. Творы абодвух аўтараў знайшлі выдатнага выканаўцу — калектыў узорнага духавога аркестра штаба БВА. Трэба падкрэсліць, што гэты першакласны калектыў (дырыжоры Ул. Мартынаў, А. Майзлер і І. Зарэцкі) праводзіць вялікую работу па прапагандзе беларускай музыкі ў рэспубліцы. Дырыжоры аркестра і спецыяліст у галіне духавой музыкі Б. Кунін зрабілі для гэтага аркестра нямала пералажэнняў сімфанічных твораў і акампанементаў беларускіх аўтараў.

Пашыраецца кола аўтараў, якія пішуць тэатральную музыку. У музычным афармленні драматычных спектакляў удзельнічаюць Л. Абеліёвіч, Г. Вагнер, Я. Глебаў, І. Кузняцоў, М. Русін, Ю. Семяняка. Але наша тэатральная музыка яшчэ не заўсёды дзейсная ў спектаклі. Часцей за ўсё яна запаўняе паўзы, але не раскрывае падтэксту п'есы.

Яшчэ мала радасці прыносіць слухачам наша музыка да кіно. У гэтым жанры працуюць з пераменным поспехам Ул. Алоўнікаў, Я. Глебаў, Д. Камінскі, Д. Лукас, Ю. Семяняка, а таксама Ю. Бяльзацкі. У беларускай музыцы для кіно неабходна рашуча перайсці да прынцыпаў сімфанізацыі і адмовіцца ад ілюстрацыйнасці.

Недастаткова ўвагі аддаюць нашы кампазітары калектывам эстраднага аркестра і секстэта домр Беларускага радыё.

Вялікую ролю ў развіцці беларускай музычнай культуры заклікаты адыграць музыказнаўства і музычная крытыка, якія, на жаль, доўгі час вельмі адставалі. Цяпер, гаворыць дакладчык, у беларускім музыказнаўстве наступіў некаторы пералом. За апошні час выйшаў цэлы рад работ музыказнаўцаў, многія работы знаходзяцца ў друку. Выдадзены тры музычна-фальклорныя зборнікі Р. Шырмы (чацвёрты — рыхтуецца да друку), «Песні беларускага народа» Г. Цітовіча, два тамы «Хрэстаматыі па беларускай музыцы» С. Нісневіч (астатнія два тамы падрыхтаваны да друку). Неўзабаве павінна выйсці ў свет работа Г. Глушчанкі і К. Сцепанцэвіч «Дзецям аб музыцы», а таксама праца С. Нісневіч «Беларуская народная песня ў драматургіі нацыянальных опер і балетаў». Наша выдавецтва выпусціла таксама рад папулярна-пазнавальных брашур і манаграфічных нарысаў.

Значна павысілася творчая актыўнасць музыказнаўцаў, якія працуюць у Акадэміі навук БССР. Яны напісалі рад цікавых работ. Гэта «Ладавыя асновы беларускай народнай песні» В. Ялатава і «Народнасць савецкага мастацтва і беларуская музыка» А. Ладыгінай, «Беларускі музычны тэатр» Б. Смольскага.

Як відаць з гэтага пераліку работ, беларускія музыказнаўцы за апошнія тры гады папрацавалі няблага. Але многім з названых і не названых музыказнаўчых работ не хапае яркасці, адточанасці мовы, гнуткасці думкі, публіцыстычнасці, глыбокага разгляду твораў.

Я. Цікоцкі адзначае, што калі музыказнаўства крыху пайшло наперад, дык у галіне беларускай музычнай крытыкі асаблівых змен няма. Некаторыя члены саюза адмоўчваюцца на творчых абмеркаваннях, не выказваюць адкрыта свайго пункту погляду. У саюзе яшчэ рэдка праводзяцца творчыя дыскусіі па асобных творах, па важнейшых пытаннях музычнай навукі, па праблемах сучаснай музычнай мовы, наватарства і традыцый, нацыянальнай формы і г. д. Слаба таксама развіваецца крытыка і на старонках друку.

Палепшыць становішча музычнай крытыкі, гаворыць Я. Цікоцкі, **можна толькі ўсім нам разам: і кампазітарам, і музыказнаўцам, і выканаўцам, усім тым, каму дарагая савецкая музыка.**

Дакладчык спыняецца на пытанні аб музычных кадрах. Ён гаворыць, што закон Вярхоўнага Савета СССР аб умацаванні сувязі школ з жыццём і аб далейшым развіцці сістэмы народнай асветы ў нашай краіне, а таксама рашэнні XXII з'езда КПСС па пытаннях эстэтычнага выхавання моладзі маюць непасрэднае дачыненне да пытання падрыхтоўкі музычных кадраў у Беларусі, у тым ліку і кампазітараў і музыказнаўцаў.

За апошнія пяць год Белдзяржкансерваторыя выхавала кампазітараў Я. Глебава, Ул. Чараднічэнку, Р. Бутвілоўскага, Д. Смольскага, І. Лучанка, І. Кузняцова, Ю. Семяняку, І. Ронькіна, якія паказалі сябе як творча актыўныя музыканты.

З музыказнаўцаў неабходна адзначыць выпускнікоў нашай кансерваторыі, **якія вучацца цяпер у аспірантуры, — Т. Дубкову, І. Зубрыч, А. Саламаху і Н. Калеснікаву. Гэта тэарэтычна падрыхтаваныя, здольныя для навукова-даследчай работы таварышы.**

**У падрыхтоўцы кадраў маладых кампазітараў і музыказнаўцаў, гаворыць Я. Цікоцкі, наглядаюцца значныя цяжкасці і недахопы. Склад студэнтаў, што займаюцца ў кансерваторыі на тэарэтычным і кампазітарскім аддзяленнях, па якасці вельмі няроўны. Прычына гэтага ў адсутнасці спецыяльных аддзяленняў у музычных вучылішчах рэспублікі апроч мінскага. У кансерваторыю часта паступаюць людзі з вельмі слабай** падрыхтоўкай па музычна-тэарэтычных дысцыплінах і з нізкім узроўнем музычнага развіцця.

У мэтах паляпшэння падрыхтоўкі маладых кампазітараў і музыказнаўцаў праўленне саюза лічыць неабходным ажыццявіць наступныя мерапрыемствы: адкрыць ва ўсіх музычных вучылішчах рэспублікі і музычнай школе-адзінаццацігодцы аддзяленні кампазіцыі і музыказнаўства, укамплектаваўшы іх кваліфікаванымі выкладчыкамі; адкрыць пры музычнай школе-адзінаццацігодцы інтэрнат для таленавітых дзяцей з перыферыі; стварыць харавое вучылішча пры Дзяржаўнай харавой капэле; арганізаваць у Мінску гарадское вучылішча са спецыяльным кампазітарска-музыказнаўчым аддзяленнем; карэнным чынам палепшыць выкладанне спеваў і музыкі ў агульнаадукацыйных школах; умацаваць літаратурна-музычныя факультэты педінстытутаў адпаведнымі выкладчыцкімі кадрамі і пашырыць сетку музычна-педагагічных вучылішчаў.

Далей Я. Цікоцкі характарызуе масава-асветную і арганізацыйную работу Саюза кампазітараў. Заклік партыі ўмацоўваць сувязь мастацтва з жыццём народа знайшоў жывы водгук сярод творцаў музыкі. Кампазітары сталі часцей сустракацца з слухачамі, выступаць з творчымі справаздачамі на прадпрыемствах і ў калгасах, у навучальных установах і на новабудоўлях, у воінскіх часцях і дзіцячых установах рэспублікі. Распрацавана тэматыка па музыцы для народных універсітэтаў культуры і прачытана звыш 50 лекцый на музычных факультэтах універсітэтаў. Некаторыя кампазітары шэфствуюць над мастацкай самадзейнасцю новабудоўляў і буйнейшых прамысловых прадпрыемстваў Беларусі, памагаюць агітбрыгадам раённых дамоў культуры, удзельнічаюць у музычна-эстэтычным выхаванні дзяцей і юнацтва. Саюз кампазітараў арганізаваў для пачынаючых аўтараў пастаянна дзеючы творчы семінар, а ў абласцях па два разы ў год разам з Рэспубліканскім Домам народнай творчасці праводзяцца трохдзённыя творчыя семінары.

Умацаванне сувязі з грамадскасцю, з жыццём з'явілася выдатным стымулам для актывізацыі творчасці нашых кампазітараў.

— Якія першачарговыя задачы стаяць цяпер перад намі? — гаворыць у заключэнне свайго даклада Я. Цікоцкі. — Мы павінны авалодаць майстэрствам настолькі, каб усе свае добрыя задумы ўвасобіць у дасканалую форму і давесці іх да слухачоў. Мы абавязаны ўзнімаць у музыцы менавіта тыя тэмы, тыя праблемы, якія хвалююць усю нашу грамадскасць. Нельга забываць, што талент патрэбна развіваць, удасканальваць, што толькі пры ўмове штодзённай упартай і мэтанакіраванай работы кампазітар становіцца больш тэхнічна ўзброены.

Мы абавязаны больш энергічна і настойліва шукаць і знаходзіць патрэбную сучасную тэму, сюжэт, літаратурную першакрыніцу для оперы ці балета, сімфанічнага твора і раманса, удасканальваць, адточваць музычную драматургію ў буйных творах. Нам трэба заўсёды памятаць, што творчая арганізацыя будзе моцнай не толькі яркімі творамі, але і тым, што ў ёй будзе панаваць атмасфера прынцыповай, таварыскай крытыкі. Партыя і Савецкі ўрад, наш народ стварылі кампазітарам усе ўмовы для творчай дзейнасці. Дык будзем жа сваёй працай, маральным абліччам, у штодзённых паводзінах дастойнымі высокага давер'я, якое нам аказвае Камуністычная партыя. Давайце ствараць такія творы, якія неслі б савецкім людзям радасць і святло, дапамагалі б ім будаваць светлае заўтра.

Я. Цікоцкі.
Сяброўскі шарж А. САКАЛОВА.

### У ПРЭЗІДЫУМЕ, У ЗАЛЕ, НА КАНЦЭРТАХ

Дырыжор В. Дуброўскі.

Спявачка В. Фурс.
Сяброўскія шаржы М. ЛІСОЎСКАГА.

### У ПРЭЗІДЫУМЕ, У ЗАЛЕ, НА КАНЦЭРТАХ

М. Аладаў.
Сяброўскі шарж А. САКАЛОВА.

А. Багатыроў і Р. Шырма.
Сяброўскі шарж М. ЛІСОЎСКАГА.

